Кастусь Жук



# Бегемот без ботаў





Кастусь Жук нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў на Мінскім трактарным заводзе, у рэдакцыі газеты «На стройках Минска», на Беларускім тэлебачанні, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У друку выступае з 1968 года. Аўтар многіх кніг паэзіі для дарослых, а таксама зборніка вершаў для дзяцей «Шпак купіў магнітафон». Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.





ISBN 985-02-0690-X
9 789850 206909

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-5
Ж 85

Мастак **Віталь Дударэнка**

*Для дашкольнага ўзросту*

ISBN 985-02-0690-X





# Дзіўнае дзіва

## Вершы




## Навіна

І з якой
Такой нагоды
Шмат сабралася народу?

А народ то ўсё
Лясны:
Тыгры,
лані,
лось мажны,
Безліч малпаў,
папугаяў
І ваўкоў ікластых зграя.

Тут
Мядзведзі-махначы,
Совы,
сойкі
і драчы;



І хвастатыя лісіцы,
І вавёркі,
І куніцы;

Тхорыкі,
Цецерукі,
І бабры,
І барсукі;

І глушэц,
Як пень глухі,
Падміргнуў нам
З-пад страхі.

А яшчэ
У рад пасталі —
Мы такіх і знаць не зналі.

У здзіўленні
Назіраем,
Ведаць навіну жадаем.

Запыталіся
Ў звяроў,
Ды адзін з іх
Як зароў.

Голавы
Ўтуліўшы ў плечы,
Мы аж войкнулі, малечы.

Падказаў
Нарэшце шпак:
— К вам прыехаў заапарк.




## Сям'я

— Кожны знае,
Што сям'я —
Гэта, перш за ўсё,
Сем Я.
А у нас —
Сям'я малая,—
Тата Зосьцы
Заўважае
І працягвае
Ціхутка: —
Хутка
Купім мы малютку.



Зоська ў шчасці:
— Будзе брацік!
— Вось і добра,—
Кажа маці.



## Новы фотаапарат

Мне купіў
Старэйшы брат
Новы фотаапарат.
Падрасту —
Здымаць пачну
Лета,
Восень
і Вясну.
Зробім мы нямала
З Дзімкам
Каляровых фотаздымкаў.
І з альбома
Поры года

Будуць нас
Вітаць заўсёды.
А Зіме
Мы скажам дружна:
— Не марозь
Ты слізкіх лужын!
Перастанеш
Лютаваць —
Будзем
І цябе здымаць.



## Мім

Зноў маленькі бегемоцік
Выпацкаў у гразь жывоцік.
Плача бегемоцік Мім:
— Як у школу йсці такім?
Першы клас — няхай не пяты,
Толькі брыдка быць мурзатым.



Суцяшае мама Міма:
— Не праходзь ля ночваў міма,
А бултыхайся туды —
Там паўнюсенька вады.
Толькі зазвініць званок —
Прыйдзеш чысценькім на ўрок.



## Зямныя лекары

На Зямлі
Багата спраў
(Кожны ведае вучоны!)
У падлескаў і дубраў,
У бароў вечназялёных.

Лекары яны для нас,
Для зямных абшараў,
нетраў:
Ачышчаюць пра запас
Глебу,
бруднае паветра.

У лясоў такі закон:
Памагаць
людскому роду,
Каб гусцеў,
чысцеў азон,
Стала болей кіслароду.

Мы ж —
Не ўсе да іх з дабром:
Высякаем іх
і нішчым;
Стала ў птушак
Пад крылом
Болей лядаў,
папялішчаў.

Хто ж пасадзіць
новы лес
Ці хаця б
адну лясіну?
Цяжка дыхае прагрэс
Нам у спіну,
лесу ў спіну...





## Рыба на калёсах

На двары дзятвы — што воса
Смех паўсюль разносіцца:
— Едзе рыба на калёсах!
— Рыба ў госці просіцца!

«Што за рыба? Скуль такая?»
Кожны думае, гадае...

Крок зрабіў наперад Кім:
— Назва гэтай рыбе — Кіт.

Закрычалі дзеці хорам:
— Кіт! Ура-а!..
— Ён бачыў мора!
— Ён краін пабачыў шмат!
— Не вяртайся, Кіт, назад!

...Усміхнуўся дзед Варлам:
— Вось дык падарунак вам!



## Пякучыя ледзяшы

Смачныя,
Што ні кажы,
Пад страхою
Ледзяшы.
Так і просяцца
У рот
Акурат
Пад Новы год.
Толькі лепш іх
Не смакчы —
Могуць
Горла апячы.





## Валерка і талеркі

Неслухмяныя талеркі
З рук пападалі ў Валеркі:
Ён памыць хацеў іх, ды
Толькі шмат займеў бяды,
Бо талеркі — вось канфуз! –
Разляцеліся ўсе ў друз.
Купіш клею хоць балею —
Іх цяпер ніяк не склеіш.
Чэша лоб ён:
— Каб жа знаў,
Дык падушку б падаслаў...



## Парасяты

На падворку каля хаты
Дуб страсае жалуды.

Крочаць дружна парасяты
Разам з мамаю туды.

Я таксама крочу прама
Ўслед за іх шчаслівай мамай:
Назбіраю ім, харошым,
Жалудоў паўнюткі кошык.



## Малюнкі ў ахвоту

У малога Міхаська
Ёсць заўжды занятак:
То малюе ён звярка,
То жука, то хату...

Сёння — ён намаляваў
Россып кветак, зелень траў
І вялікага мядзведзя,
Што
На матацыкле едзе.





## Дзядзька Слон

Хто не бачыў
З вас Слана?
Як гара
Ў яго спіна.
Ён даўжэзны
Мае нос,
Трубіць ім,
Як паравоз.
Гэтым носам
Бервяно
Падымае не адно.
А захоча —
Дык і дрэва
Выкарчуе,
Калі трэба.
Нават глыбу
Без турбот
Пераверне ім
Набок.
Вось такі ён,
Дзядзька Слон.
Ці не праўда,
Дужы ён?!



## Дзіўны дзед

Снег іскрыцца! За акном —
Ходзіць Дзед белабароды,
Заглядае ў кожны дом,
Шле вітанні:
«З Новым годам!»
Гэта добры Дзед Мороз —
Запрашайце госця ў хату:
Ён здалёку вам прынёс
Цацак-за́бавак багата.
А яшчэ прынёс здалёк
Ён прысмакаў самых розных,
Бо багаты кашалёк
Мае гэты Дзед марозны.
Не скупы пад Новы год
Дзед для вас на пачастункі.
Дык прымайце ж ад яго —
Казачныя падарункі.



## Геша

Навучыўся папугай
Вымаўляць
«Здароў!», «Бывай!».

Ды
Калі што гаварыць —
Добра не засвоіў.
І ягоныя сябры
Вечна
Ў неспакоі.

Толькі зойдзе
Ў дом Міхай —
Папугай крычыць:
— Бывай!

А за дзверы
Зробіць крок —
Папугай услед:
— Здароў!



І Хвядосік,
Брат Міхая,
Што рабіць з ім —
Не згадае.

Нават
Брат старэйшы Вова
З Гешам
Не вядзе размову.

Думу думаюць браты,
Цеплячы
Надзею:
Папугай ён —
Малады,
Мо паразумнее?

Але ўпарты
Папугай
На «Здароў!»
Крычыць «Бывай!»,
На «Бывай!»
Крычыць «Здароў!»,
Вечна дражнячы
Сяброў.

Ды аднойчы,
Па вясне,
Ледзь сышоў
З ваколіц снег,
Бацька ім
Прывёз другога
Папугая маладога.

І малодшы папугай
Хуценька засвоіў,
Дзе «Здароў!»,
А дзе — «Бывай!»
Гаварыць
З настроем.
Седзячы
Ля радыё,
Хлопчыкаў
Ён радуе,
Бо за дыктарам
Аж фразу
Можа
Паўтарыць адразу.

Можа
Песню праспяваць.
Можа
Казку расказаць.



Сорам Гешу ахапіў:
«Што ж гэта такое,
Каб малодшы
Ўсіх смяшыў,
Быў для ўсіх
Героем?»

Крыльцамі
Ён замахаў,
«Калыханку»
Праспяваў.
І,
Заплюшчваючы вочы,
Прашаптаў ім:
— Добрай ночы!

А назаўтра
Раненька
Пракрычаў старанненька:
— Добрай раніцы,
Сябры!
Я ўжо ўмею
Гаварыць!
І заўсёды
Буду знаць,
Як патрэбна
Вас вітаць.



## Малінаўка

Хораша малінаўцы
У густым малінніку.

У лясных цянётах
Ёй не адзінотна.

Там, у хісткіх шатах,
Дрэмлюць птушаняты.

А пад шапкай дрэў
Ветрыку павеў.

Вось чаму залівіста
Спеў вядзе малінаўка.

І званчэюць песні
На прасторах вясніх.



## Сябры

Дуб і Ясень
На зары
Разважалі,
Як сябры:
— Штó
Паляну нам дзяліць?!
Лепей
Разам будзем жыць,
Каб ніякі
Ураган
Не зваліў нас
На дзірван.

Так і дружаць
Дзень пры дні,
Пераплёўшы карані.





## Паслухмяны вучань

Вецер
Ветрыку сказаў:
— Падрастай, малеча.
У цябе —
Багата спраў,
Раскатурхвай плечы.
Рупнасці
Тваёй надзел —
Цэлыя абшары.
Ты павінен
Кожны дзень
Гнаць
Па небе хмары,
Вусы
Варушыць аўсам,
Лашчыць кроны
Дрэвам.
І над кожнай вёскай
Сам
Кіраваць залевай.



А пакуль —
Прыспешвай крок
Да змарнелых градак:
Кожны ўзрадуй
Агурок.
І капусту
Ўзрадуй.

Адказаў
Малеча так:
— Не хвалюйся,
Тата.
І падаўся
Праз тартак —
Да вясковых хатаў.



## Шчодрая крынічка

Не маўчыць ані крынічка,
Хоць зусім і невялічка:
— Буль-буль-буль...
Буль-буль-буль...

Ты куды ідзеш?
Адкуль?
Набяры вадзічкі
Ты з мяне,
Крынічкі.
Зачарпні карцом,
Станеш малайцом.



## Мішка і кніжка

Касалапы Мішка
Зачытаўся кніжкай.
Ды не можа зразумець —
Розняцца чым
«МЕДЗЬ» і «МЕЦЬ»,
«ЛЕС» і «ЛЕЗ»,
«КАЎБОЙ» — «КАНВОЙ»...
Проста
Гора Мішку.
Хай загляне
Ў слоўнік свой
Мішка-каратышка.



## Няўважлівы вожык

Вожык выехаў з варот,
Едзе па балоце.
Ды забыў пра паварот
Ён на павароце.

І, згубіўшы біты след,
Ў багну праваліўся,
Утапіў веласіпед,
Сам ледзь не ўтапіўся.





## Кран

Акурат
За нашай школай
Высачэзны
Ўзняўся кран.
Кран — як бусел.
Кран — як волат.
Кран —
Ён проста велікан.

Ты прыглядзься —
І прыкмеціш:
Ён умее
Працаваць,
Падпарадкаваны мэце —
Новы дом
Пабудаваць.

Шыю ўправа,
Шыю ўлева
Ён пакручвае,
Шчырун.



Не спужне яго
Залева.
Не спужне яго
Пярун.

Кожны скажа
Вам рабочы,
Кожны скажа
Будаўнік,
Што адранку
І да ночы
Ён —
Нястомны працаўнік.

Мае вопыт
Ён багаты —
Шмат будоўляў
За спіной.
А таму й настрой
Прыўзняты,
Вельмі радасны
Настрой.

Падымае
Над планетай
Ён
Шматтонную пліту

І штодня
Расце пры гэтым.
Ён расце —
І я расту.

Падрасту
(А ў гэта веру!) —
Стану я
Кранаўшчыком.
Мне адкрые
Шчодра дзверы
Кожны
Ўзведзены мной
Дом.



## Бегемот без ботаў

Бегемот — шырокі рот —
Трапіў у балота.
І падумаў бегемот:



«Вось бы зараз боты!
Не мясіў тады б я гразь
Босымі нагамі,
Па куп'і скакаў, бы князь,
Прыткімі скачкамі».
Зажурыўся бегемот
З думкаю пра боты.
І пакрочыў бегемот
Прэч хутчэй з балота.



## Дзіўнае дзіва

— Дзіва дзіўнае
Убачыў
Сёння я,
Калі рыбачыў:
Плыў па рэчцы
Параход,
А на ім
Сядзеў народ.

Хто б падумаць мог,
Што там
Важнічаў
Гіпапатам.
Насарог
Тапырыў рог.
Леў трос грывай,
Не падвох.
Кракадзіл
У акулярах
Пазяхаў,
Пра нешта марыў.
Мылі палубу
Бабры,
Іх малодшыя сябры.
Журавы і пеліканы
Гутарку
Вялі старанна.
А мілейшы
Дзядзька Слон
Слухаў свой
Магнітафон.
Вер, дзядуля,
Ці не вер —
Я ў здзіўленні
Шчэ й цяпер,



Бо,
Калі і зарыбачу,
Гэткі цуд
Ці больш убачу?!

Ды дзядуля
Ўслед сказаў:
— Не рыбачыў ты,
А спаў!



## Тэлеантэны

Яны нацэлены ў вышыні,
Каб праслухоўваць
Шар зямны.
Над імі —
Толькі крык гусіны
Ды журавоў лятуць кліны.

Хмурынаў
Шэрыя валокны
Ім шлюць паклоны
Дзень пры дні.

Я рад,
Што вечарамі ў вокнах
Гараць
Блакітныя агні!..



## Ляснымі сцежкамі

Я раніцай туманнаю
Прыспешу нацянькі
Туды,
Дзе спяць крамяныя
Духмень-баравічкі,
Дзе дрэмле падбярозавік,
Чакае махавік,
Дзе ціша
Звоніць росамі
І лашчыць ветрык слых.
Напоўню кошык пахамі
Дароў зямных, лясных.
І падружуся з птахамі
Радзімай стараны.



## Родная мова

Знаёмае мне
Тваё кожнае слова,
Бо ты — беларуская,
Родная мова,
Заўсёды жывая,
Заўсёды мне блізкая.
Табе
Б'ю чалом я
Паклоны нізкія.



## Шкляны ручаёк

Юркі
Ручаёк шкляны
Нарадзіўся
Ў час вясны.
Ён
З вялікай асалодай
Мкнецца ўдаль

Пад шкельцам лёду,
Бо
Трымае напрасткі
Шлях
Да цётухны Ракі.



## Мурашынае метро

Мурашоў нямала
Цуд-метро капала.

Увіхаліся ў бары
Ўсю вясну і лета:
Палюбілі ўсе звяры
Мурашоў за гэта.

А ў метро тым —
Сто хадоў,
Станцый, пераходаў,
Сотні новых паяздоў,
Тысячы народу.



Мурашыны той народ
Вельмі ўжо руплівы,
Любіць
Ездзіць на метро —
Адтаго й шчаслівы.

Рады й мы за мурашоў,
За метро-мурашнік.
Паказаць яго гатоў
Нават дашкалятнік.



## Клён

Ты мяне заўсёды сустракаеш,
Калі я вяртаюся дамоў,
І прыветна галавой ківаеш —
Абяцаеш, што сустрэнеш зноў.

Кожны раз, калі настрой губляю,
Я іду пагутарыць з табой.
Клён, чаму са мной не размаўляеш,
А ківаеш толькі галавой?

Да цябе не раз яшчэ вярнуся,
Каб пабыць з табою зноў і зноў.
Я табе заўсёды пакланюся
І пагавару з табой — без слоў.



## Беларуская зіма

Беларуская зіма —
Гэта цуд, паверце.
Прыгажэй нідзе няма
Аж на цэлым свеце.
Дрэвы — ў снежным серабры.
Хаты — ў шапках белых.
Лес — кашлаты і стары —
Быццам амярцвелы.
А як пройдуцца вятры
Па зямных прасторах —
Ты убачыш на двары
Мірыяды зорак.



Вока будуць чараваць
Светлячкі-сняжынкі.
Будуць лыжнікаў склікаць
Горкі і сцяжынкі.



## Салаўіная жалейка

Вось дык дзіўная жалейка
Заспявала ў гушчары:
Непаседа салавейка
Выцінае на зары.

Будзіць ён прастор вясновы,
Будзіць ён лясны народ.
Што за песенная мова!
Што за звон крыштальны нот!

Вер: сапраўдную жалейку
Купіць сёлета мне дзед.
Хай спявае салавейка
Ў нашай хаце кожны дзень.



# І радасць, і любоў

Люблю я
Велічнае ўбранне
Лясоў
Завейнаю зімой,
Калі сняжынак
Белы рой
З галінак дрэў
Ляціць са ззяннем.

Люблю,
Калі скрыпіць палоззе,
Напорыста
Імчыцца конь,
А снег гарыць,
Нібы агонь,
На пасярэбранай дарозе...

Люблю
Прысады роднай вёскі,
Дзе
Кожны-кожны раз са мной
Вячэрняй,
Мройнаю парой
Гавораць стройныя бярозкі.



## Лясное возера

Будзеш ты
Заўжды са мною,
Возера
Маё лясное.
Ці ў дарозе я,
Ці дома —
Ты ў душы маёй,
Вядома,
Бо, канечне ж,
Не ўяўляю
Без цябе
Зямнога раю.
Ды і як яго
Ўявіць,
Калі рыбку
Не злавіць?..
Юшку
Не прыгатаваць?..
Сябра
Не пачаставаць?..



Не перадыхнуць
З дарогі,
Прытаміўшы ўдосталь
Ногі?..



## Карта роднай Беларусі

Разглядаем
Мы з Марусяй
Карту
Роднай Беларусі.
Колькі сёл тут,
Гарадоў!
Колькі рэчак
І лясоў!
Вадаёмаў жа,
Азёраў
Быццам тых
На небе зорак.
Што й казаць:
Багаты край
І прыгожы —
Чым не рай?

## Гонар за брата

Служыць у войску мой брат,
Абараняе Айчыну.
Ён — Беларусі салдат,
Мужны, сапраўдны мужчына.

На фотаздымку ў яго
Лычкі-нашыўкі сяржанта.
Прыйдзе дадому праз год —
Стану яго ад'ютантам.



## Жывы клубок

Скок ды скок,
Скок ды скок —
Скача па траве клубок.
Вось ускочыў на сасну.
Дай жа зблізку я зірну!..
Толькі я падбег бліжэй,
Не адводзячы вачэй,
Той вышэй на дрэва — скок...
Скочвайся назад, клубок!



Я дастаў цукерку
І паклаў пад елку.
Што за цуд?!
У міг адзіны —
Ён ужо каля яліны.
Міг яшчэ —
І ўраз клубок
Стаў вавёркай, далібог.



## Святлафор

Што такое
Святлафор —
Кожны ведае
Шафёр.
Рух у горадзе —
Не рух,
Калі святлафор
Патух.
Без яго,
Як ні круці,
Ні праехаць,
Ні прайсці.
Бачна ўсім
Яшчэ здалёку,
Як міргне
Зялёным вокам.
Так дае
На рух ён згоду
Для машын
І пешаходаў.



Жоўтае святло —
«Увага!»,
На яго спяшацца
Блага.
На чырвонае ж
Святло
Рухацца —
Сабе назло.
Ведайце:
Без святлафора
Ў горадзе —
Ну проста гора!



## Вярблюд

Толькі глянуў
На вярблюда —
Здаўся ён
Такім няўклюдам!
Але ж хлеб
Узяў з рукі.
Зараз з ім мы —
Дружбакі.

## Лятучая шапка

Не касмічная талерка
Пралятае
Па двары,
Шапку
Хлопчыка Валеркі
Па двары
Нясуць вятры
Да вядра
З вадой і мылам:
Хай адмыецца ад пылу!



## Сумарная дзесятка

Сёння няёмка Ігнатку,
Ён атрымаў не дзесятку:
Пяцёрку —
За тое, што кепска чытаў,
Пяцёрку —
За тое, што дрэнна пісаў...
Маме ж тлумачыць Ігнатка:
— Склаўшы іх — будзе дзесятка.



## Урок з вітамінкаю

Нават
На апошні ўрок
Сіл я ўдосталь
Прыбярог,
Бо
Прыняў на перапынку
Аскарбінку-вітамінку.

Гэта вам
Не нейкі «Шок» —
Пройдзе з поспехам
Урок!



## Спевакі

Пры гаўканні
Сабачка Лорд
Браў некалькі
Заўсёды нот.



Ён, гаўкаючы,
Падвываў,
Нібыта
Песеньку спяваў.
Хаваліся
Ў кусты каты,
Давалі кошкі
Лататы,
Калі
Ягоны барытон
Гучаў,
Нібыта саксафон.
І толькі
Хлопчык Кастусёк
Яму падцягваў
Незнарок.
І слаўным
Іхні быў дуэт,
Пакуль індык
Не праў кларнет,
Бо ад кларнета
Індыка
Ну хоць ты вушы
Затыкай!
— Індык!



Нам болей не пярэч,
Прэч падалей ад нас ты,
Прэч! —
Загад быў
Кастуська такі...
І зноў спявалі
Спевакі.



І тады
Хацелася самому
Узляцець мне
Буслам трапяткім
Над буслiным тым
Аэрадромам,
Дзе клубiцца
Белай пáры дым.

Паглядзець,
Як дыхаюць прасторы
Кроплямi
Спацелае зямлi,
І пачуць унiзе
Гул матораў,
Што напоўнiў
З краю ў край палi.

А буслы,
Нiбыта самалёты,
Зноў кружылi
Ў небе за сялом,
Беручы пасадку
На балота,—
На буслiны iх
Аэрадром.



# Варажба вераб'я

Загадкi,
скорагаворкi

## Хто мы?

Загадка-разгадка



Сасновыя,
Шкляныя,
Дубовыя,
Стальныя —
Без нас не ўявіш
Дома,
І дачы,
І кватэры:
Мы розныя, вядома,
Але ж усе мы...
*(Дзверы).*



## Варажба вераб'я

Скорагаворка

Верабей на вярбе
Варажыў сам сабе.
Ды не чула вярба
Варажбу вераб'я.



## Рагаты барадач

Верш-загадка

Не пужайцеся,
Сябры,
Гэтага чарцякі —
Ён палохае
Ў двары
Толькі плаксаў-бякаў.

Хто ўцякае
Стрымгалоў
Ад ягоных рожак,
Ён тапырыць
Іх гатоў,
Як іголкі вожык.

Пракрычыць услед ім:
«Ме-е-е!»,
Тупне капытамі,
Бо заўжды
Сабе наўме
З віламі-рагамі.

Калі ж смела
Глянеш ты на яго,



Зацята
Сам
Дае ён лататы
У кусты за хатай.

З ім, гарэзлівым,
Дружу
І з яго братамі.
Хто ж такі ён —
Не скажу.
Адгадайце самі.



## Кот і кілбасы

Скорагаворка

Ласы
Кот быў на кілбасы
І памалу
Краў прыпасы.
Каб не краў ён
Больш прыпасаў —
Па спіне
Паходзіць пасак.



## Цуда-аловак

Загадка-разгадка



У майго алоўка
Зверху ёсць галоўка,
Лоўкая такая,
Спрытна ўсё сцірае.

Напішу не так я слова —
Памагчы яна гатова.
Нават цэлы сказ ці фразу
Сцерці здолее адразу.

Вам скажу я па сакрэту,
Што за цуд аловак гэты:
Працірае ён да дзіркі,
Бо галоўка тая...
*(Сцірка).*



## Вадалаз і лаз

Скорагаворка

Вадалаз
Нырнуў у лаз,
Што адкрыў
Яму баркас.

А за лазам,
Пад баркасам,
Рыбы —
Цэлыя прыпасы.




## Сава-недарэка

Скорагаворка

На сасне
Сядзіць сава,
Памнажае
ДВА на ДВА.
Галава
Ў савы баліць,
Што рахунак —
ДВА НУЛІ.



## Работа ў ахвоту

Скорагаворка

У настойлівага Славы
Справы — злева,
Справы — справа,
Справы
Ходзяць па пятах,
Славу ў справах —
Любата.

Ён без справаў бы не змог —
Размарыўся б, занямог.



## Міла і мыла

Скорагаворка

Гаварыла Міла міла,
Што пра мыла — не забыла.
Ды свайго сабачку Мілу
Мыла Міла ўсё ж без мыла.

## Снежань, студзень, люты

Загадка-разгадка

Толькі
Лістапад міне,
Ў чырвань апрануты,
Як прыходзяць
Да мяне
Снежань,
Студзень,
Люты —

Верныя мае браты,
Што
Нясуць завеі,
Ды мяне
Не бойся ты,
Беласнежкі-феі:
Шлях на вуліцу
Трымай —
Там чакаю я...
*(Зіма)*.



## Няпрадва

Скорагаворка

Я ад брата
Ўведаў праўду
Пра раку з былін —
Няпрадву,
Дзе пабілі
Ўсіх дазвання
Лютых ворагаў
Славяне.

## Ліза і ліса

Скорагаворка

Ліза ўбачыла лісу,
Рыжахвостую красу
Да лісы
Сяброўак з класа
Ліза прывяла
І Ўласа.

## Дзіцячы дом

Няхітрая скорагаворка
для дзяцей і для дарослых

Маня любіць манну —
Не ману.
Ваня любіць ванну —
Не вайну.
Каця любіць Котку —
Кацяня.
Дзеці, хоць сіроткі,—
Як радня.

## «Магнітнае» прыцягненне

Скорагаворка

Тома
Ведала, вядома,
Што ад яблыкаў —
Аскома.
Ды да яблык
Яблынь світа
Тому цягне
Як магнітам.



## Гарбуз і канфуз

Скорагаворка

Гарбуз Гурку
Падаў руку —
І ўлёгся ля Гурка
Ў цяньку.
Але адбыўся
Тут канфуз:
Збаяўся холаду
Гарбуз.



## Якасная праполка

Скорагаворка

Поля ў полі
Бульбу поле,
Зелле носячы ў прыполе.
Колькі б, дождж\ык,
Ты ні ліў —
Не ўзрастуць там
Хвошч, палын...

## Піліп і піла

Скорагаворка

Выхвалялася Піла:
— Многа соку
З дрэў піла.
Ды Пілу
Асек Піліп:
— Языком больш
Не мялі!



## Сарока і сыр

Скорагаворка



Сыр сароцы красці — сорам.
У яе — сябровак сорак.
Сорак дзетак у сарок.
Сыр не красці — іх зарок.
І сарока-белабока
Там, дзе сыр,
Ступае бокам.



## Крот і гарод

Скорагаворка

Крот
Ля самых ля варот
Ранкам
Рые агарод.
А ў гародзе
Рос турнэпс...
Там крата спалохаў
Рэкс.



## Лань і лось

Скорагаворка

Там, дзе Лань,—
Ласункаў лес.
Любіць лань іх,
Любіць лось.
Лось
Праз рэчку Лань,
Паляну
Ходзіць
Гасцяваць да лані.



## Летні поўдзень

Скорагаворка

Там, дзе верас
Запалаў,
Водар ходзіць
Між палян,
Бо й рамонкі,
І чабор
Свой прынеслі
Пах у бор.

## Дзед Цімох

Верш-загадка

Стаіць на градцы
Дзед Цімох
(Так мы яго
Празвалі).
У барадзе ягонай —
Мох,
І ў спёку
Носіць шалік.

На ім —
Чырвоны капялюх,
Накінута ватоўка.
Адзін
Спраўляецца за двух,
Нясе ён службу
Лоўка.

Махне
Пратэзам ён рукі
Направа ці налева —
І вішань
Не клююць шпакі,
Зайцы
Не нішчаць дрэваў.



На мох
Ягонай барады
Жагнешся сам
Міжволі.
Дзед ні туды
І ні сюды —
Стаіць сабе,
Сваволіць.

Замест вачэй —
Два казыркі,
Нос —
Морква замяняе.
Ён
Апалоць нам
Агуркі
Ані не замінае.

— Здарова,— кажам,—
Дзед Цімох!
Ды ён маўчыць,
Не чуе.
На градцы гэтай,
Далібог,
Ён днюе
І начуе.



Хто ж
Гэты дзіўны
Дзед Цімох?
Ты здагадацца, ўрэшце,
Змог?



## Каго баяцца дрэвы?

Загадка-разгадка

«Жых» ды «жах»,
«Жых» ды «жах»...
Зубы маю —
Проста жах.
Зубы тыя —
Не ўстаўныя,
Зубы моцныя, стальныя.

Я бываю механічнай.
І бываю электрычнай.
І працую я
З ахвотай,
Бо люблю
Сваю работу:
Вечна маю
Я патрэбу
Угрызацца прагна ў дрэва.

Падказала — што магла.
А завуць мяне...
*(Піла).*



# Як мядзведзь стаў пчаляром

Казка



У зялёным у бары,
У глухой гушчэчы,
Дзе здаўна
Жылі звяры,
Жыў мядзведзь старэчы.

Жыў сабе,
Харомы меў
У цянётах лесу —
Піў
Птушыны звонкі спеў,
Піў
Ён слодыч лета.



Ды аднойчы
Застагнаў,
Хвора
Згорбіў плечы —
І
Упаў на коўдру траў
Грузна, недарэчы.

Ён адчуў:
Пражыў свой век
Пад нябёсаў танцам.
І ні звер, ні чалавек
Не памогуць старцу.

І ці варта
Да́лей жыць,
Калі сілаў рэшта
На зямлі сырой ляжыць,
Як пустое рэшата?..

...Чуе крокі.
Што за здзек:
Перад ім ласіха?
Не.
Схіліўся чалавек —
І гаворыць ціха:



— Рана
Злёг ты паміраць,
Здаравяк-вярзіла.
Захварэў?
Дык праганяць
Хворыч
Трэба сілай...

— Як жа
Хціўку пратурыць,
Падкажы, дабрача?
У мяне ўжо
Кроў гарыць...—
Ледзь мядзведзь
Не плача.—

Мне ні легчы і ні ўстаць —
Так паўсюль балюча.
Час прыйшоў мой
Паміраць —
Гіну немінуча.

Не ўратуюць
Ні сябры,
Ні бальзам з мікстурай.
Ты вяртайся на зары:
Згіну — здымеш шкуру.



Больш
Пухнаты мне кажух
Не патрэбны будзе.
Ты насі яго за двух —
Не асудзяць людзі.

З гэтай споведдзю
Махнач
Зачыніў бярлогу.
Чалавек жа ўслед:
— Не плач,
Пацярпі, нябога!

Ведаю
Я для цябе
Лекі, касалапы:
Прынясу
Мядку табе,
А для лапаў — лапці.

Абагрэешся ў цяпле,
Пяткі паказычаш...—
І пайшоў шпарчэй
Праз лес
(Быў ён сам ляснічы

Доўга йшоў ён а ці не
Цёмнаю гушчэчай,
Ды
Ў радзімай старане
Напаткаў ён вечар.

Лыка
Ён надраў з лазы,
Лапці
Сплёў мядзведзю
І пазычыў
Ад казы
Малачка ў суседзяў.

Прыхапіў яшчэ
Мядку —
І ў дарогу спешна,
Бо
Мядзведзю-бедаку,
Хвораму,—
Няўцешна.

У душы яго
Пажар
Полымем палае.
Ад гарачкі —



Сам, як жар,
У агні згарае.

Без мядку і малачка
І без лапцяў з лыка
Не пражыць
Яму й дзянька —
Зойдзецца ад крыку...

Падганяе сам сябе
Думкамі ляснічы,
А трывога
Ў скроні б'е,
Сэрца
Крокі лічыць.

Бо ўжо ногі адхадзіў,
Хоць спачыць садзіся,
І адольвае сумніў:
«Ці не заблудзіўся?»

Расахаты бор сцяной.
Уваччу цямнее.
Колькі ж вёрстаў
За спіной?
І чаму
Не днее?

Святлафор савіных воч...
Вось яна, сцяжына!
— Прэч з дарогі,
Цемра-ноч,
Цемра-дамавіна! —

Праганяе ён жуду,
Сам сябе бадзёрыць.
Ды над ім,
Як на бяду,
Неба тушыць зоры...

Ветах
Хмаркай твар прыкрыў...
Вецце
Гнецца гнутка...
— Пачакай,
Мядзведзь стары,
Я ўжо хутка, хутка...

Абміне
Цябе бяда,
Смерць
Не знойдзе броду:
Малачко ёсць...
Ёсць вада...
Ёсць напітак з мёду...



Паратунак
Для цябе —
Ён, напой мядовы,
Ад усіх
Хвароб і бед
Ратаваць гатовы.

...Стала днець.
Сцяжын крыжы,
Святлафор савіны —
Вывелі
З усіх сцяжын
На адну сцяжыну,

Дзе пад шатамі
Здаўна
Туліцца
Бярлога.
Вось і дзверы...
І сцяна...
І мядзведзь-нябога...

Нерухомы...
Ледзь жывы...
Але з ноздраў — па́ра...

Ля мядзведжай галавы
Сеў ляснічы:
— Зараз...

Лапці — лапцямі...
Найперш
Тут патрэбны лекі...
Без агменю ж
Мы цяпер —
Поўныя калекі...

Раскладзем цяпельца — і
Стане мёд дарэчы...
І тады
Да схочу пі —
Будзь здароў, старэча!..

...Ён вядзьмарыў
Многа дзён,
Ноччу
Воч не зводзіў...

Стаў мядзведзь,
Як маладзён,
Проста цуд, дый годзе!..

Днямі —
З ранку да цямна! —
Карчаваў ён ляды.
І,
Дзе з дуплямі сасна,
Вуллі пчолам ладзіў.

Аж па два
Насіў вуллі
Запар на паляну,
Каб раі там
Аж гулі
На абжытых лядах.

Засяваў духмень-чабор,
Кветкі-меданосы.
І ніколі
Ў росны бор
Не хадзіў ён босы.

З цэлай пасекай
Цяпер,
Кажуць,
У гуморы.
І пчаліна-божы дар —
Раздае ён хворым.



Носіць лапці ў халады,
Каб
Не прастудзіцца!
І не ведае бяды
Прыткі шаляніца.

Для людзей ён —
Дабрадзей.
І з ляснічым дружыць.
І частуе
Ўсіх дзяцей
Аж
Да зімняй сцюжы.

Вось і ўся для вас, сябры,
Казачка-прыгода.
Той ніколі не стары,
Хто сябруе з мёдам.



## Змест

### Дзіўнае дзіва
Вершы

Варажба вераб'я

Загадкі, скорагаворкі







Як мядзведзь стаў пчаляром

Казка

**Жук К.**

Ж85 Бегемот без ботаў: Вершы. Загадкі. Скорагаворкі. Казка: Для дашк. узросту/Кастусь Жук; Маст. В. В. Дударэнка.— Мн.: Маст. літ., 2004.— 87 с. іл.

ISBN 985-02-0690-Х.

Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Кастусь Жук вядомы як аўтар шматлікіх кніг для дарослых, а таксама кніжкі для дзяцей «Шпак купіў магнітафон». Новы зборнік паэта зацікавіць маленькага чытача незвычайнымі сюжэтамі, навізной адкрыцця свету.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-5**



Літаратурна-мастацкае выданне

**ЖУК** Канстанцін Якаўлевіч

**БЕГЕМОТ БЕЗ БОТАЎ**

Вершы
Загадкі
Скорагаворкі
Казка

Рэдактар *У. М. Мазго*
Мастацкае афармленне *Т. Дз. Царовай*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *В. І. Барута*
Стылістычны рэдактар *М. Ч. Пермякова*

Падпісана да друку 08.04.04. Фармат 70×100¹/₁₆. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Школьная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 7,15. Улік.-выд. арк. 4,96.
Тыраж 2000 экз. Заказ 209.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія № 02330/0056778 ад 17.02.2004. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прыдпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.